Opłata pocztowa opłacona „ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 33. Вільня, 5 лістапада 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за $^1/_2$ — 65, за $^1/_4$—35, за $^1/_8$ — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Ад прэзыдыуму

**Выканаўчага Камітэту конфэрэнцыі прыхільнікаў „Беларускага Дня“.**

Гэтым паведамляецца, што чарговае паседжаньне Выканаўчага Камітэту назначана на 13 лістапада ў памешканьні Рэдакцыі — Ціхая 4—20 а гадзіне 10 раніцы. Яўка ўсіх сяброў Выканаўчага Камітэту абавязковая з прычыны важнасьці пытаньняў, якія будуць разглядацца.

**Прэзыдыум.**

## Новая творчая сіла.

Паяўленьне на сьвет паўгода таму назад „Бел. Дня“ паміж нашымі беларускімі палітыканамі выклікала трывогу. Рассудзіўшы справу здаровым мужыцкім розумам, здаецца, кожны шчыры беларус павінен быў-бы ўсьцешыцца, што да нязначнага ліку беларускіх часопісаў прыбыла новая і то не абы якая, а часопісь з багатым сельскагаспадарчым аддзелам, даючая гаспадарчыя і юрыдычныя парады, літэратурныя творы, адным словам, усё тое, што гэтак патрэбна нашаму беларускаму сялянству і чаго так мала яно знаходзіла і цяпер знаходзіць у іншых беларускіх часопісах.

І вось надзіва тыя самыя партыі, якія на ўвесь сьвет крычаць, што яны змагаюцца за долю беларускага сялянства, што яны дбаюць аб патрэбах яго, гэную, гэтак патрэбную, газэту спаткалі, як найвялікшага ворага.

Чаму гэта? Адказ на гэта пытаньне вельмі просты. Нашы беларускія палітыкі з абозу „Сялянскае Нівы“ і „Нашых Праўдаў і Працаў“, убачылі ў „Бел. Дні“ часопісь, якую сялянства наша сапраўды будзе чытаць і шанаваць, а чытаючы вычытае ў яе не адну горкую праўду аб іх палітычнай працы, якая мела і мае на мэце не якую-небудзь творчую думку і дабро народу, а прад усім асабістыя інтарэсы палітычных кіраўнікоў гэных часопісаў.

Адны з гэных палітыкаў здаваленьне сваіх інтарэсаў бачаць у здабыцьці пасольскіх мандатаў у польскі Сойм, якія забесьпячаюць ім бязбеднае істнаваньне і далейшыя спэкуляцыі на цемры і горы нашага сялянства, — іншыя ставілі зусім ясна мэтай сваё працы далучэньне нашае зямелькі да савецкай Масквы, пры дапамозе каторай, захаваныя дагэтуль ад людзкога вока, розныя бязвусыя і бязмозглыя маскоўскія палітрукі — гэныя гадунцы крывавых чрэзвычаек, людзі зусім чужыя і нашаму краю і нашаму сялянству— маніліся захапіць уладу ў свае брудныя рукі і панаваць над нашым сялянствам.

Гэныя палітыкі разумелі, што „Бел. Дзень“ зможа папсаваць іх брудную работу. Вось чаму адразу пасьля першага нумару паліліся на „Б-л. Дзень“ міскі памыяў, вось чаму пасыпаліся закіды здрады, Паўлюкевічаўшчыны, закіды чэрпаньня грошаў з нейкіх брудных крыніц. І гэныя закіды аб грошах рабіліся з боку тых людзей, якія ніколі не адважацца даць беларускаму грамадзянству справаздачу з таго, з якіх крыніц і колькі грошаў яны самі чэрпаюць на свае непатрэбныя беларускаму сялянству газэты і куды сапраўды кідаюць іх.

Бруды выліваліся на рэдактара „Бел. Дня“, які меў адвагу паставіць сваё імя і прозьвішча пад газэтай, якая запраўды зьяўляецца водгукам думак і ідэй яго. Бруды гэныя ліліся з боку тых людзей, якія хаваюцца за плечы таго ці іншага беднага, малаграматнага нашага селяніна, які за невялічкія грошы даў дазвол гэным пужлівым палітыкам ставіць яго імя пад выдаванымі імі газэтамі, прымаючы на сябе абавязак сядзець у вастрозе за іх палітычныя штучкі.

Бруды памыяў ліліся таксама і на супрацоўнікаў „Бел. Дня“. Сілы цемры ня міналі ніводнай аказіі, каб з'агідзіць беларускаму сялянству часопісь, якая будзіла ў ім нацыянальнае пачуцьцё і нясла сьвет пазнаньня ў сялянскія хаты, заклікаючы яго да творчае працы.

Ня гледзячы на ўсё гэтае духотнае паветра, створанае ворагамі яго, „Бел. Дзень“ вёў далей сваю нацыянальную, культурную і асьветную працу для дабра беларускага народу, здабываючы ўсё больш і больш прыхільнасьці з боку ўсяго беларускага сялянства, якое не па словах, а па працы прывыкла цаніць людзей. Хутка лаянкі на „Б. Д.“ выклікалі маўклівы пратэст беларускага сялянства.

З гэным мусілі лічыцца „Сял. Ніва“ і „Нашы Праўды і Працы“ і каб ня страціць свае популярнасьці, паволі пачалі лаянкі свае спыняць, ажно зусім уціхлі.

І толькі цяпер, калі ўбачылі, што „Б. Дзень“ ня думае затрымацца на палове шляху, калі ў сувязі са скліканай „Бел. Днём“ конфэрэнцыяй палітыканы нашы зразумелі, што „Бел. Дзень“ хоча перайсьці ад кіданьня думак да іх рэалізацыі шляхам згуртаваньня каля гэных думак і ідэй усяго беларускага грамадзянства — і павялі атаку на нас „усімі сваімі сіламі“.

Ізноў „Сял. Ніва“ і „Нашы Праўды і Працы“ брызнулі на „Бел. Дзень“ і яго прыхільнікаў брудам і каменьнямі, крыніца якіх, сапраўды, у гэных часопісях ніколі ня высыхае. Зноў пытаньні аб грошах, зноў закіды здрады і правакацыі ня толькі бліжэйшым супрацоўнікам „Б. Дня“ але і ўсім сябром конфэрэнцыі і дарэмныя патугі зьменшыць яе значэньне.

Цікава, што да гэтага голасу „Сял. Нівы“ і „Нашае Працы“ у сувязі з конфэрэнцыяй далучыў свой голас „Dziennik Wileński“, орган польскіх шовіністых, які выступае варожа проці гэнай конфэрэнцыі.

Красамоўна свае адносіны да конфэрэнцыі выказаў таксама і орган польскіх абшарнікаў „Słowo“, падкрэсьліваючы, што конфэрэнцыя прыхільнікаў „Бел. Дня“ прыняла рэзалюцыю аб зямлі бяз выкупу для сялянства.

Адным словам мы зьяўляемся сьведкамі гэнэральнай атакі на „Бел. Дзень“ з аднаго боку— палітрукаў камуністычнага маскоўскага раю і нашых беларускіх урапатрыётаў.

Мы разумеем прычыны гэных крыкаў і непакою нашых праціўнікаў.

Гэная гэнэральная атака зьяўляецца толькі новым доказам, што „Беларускі Дзень“ за паўгода свайго істнаваньня стаў гэткай паважнай сілай, з якой змушаны лічыцца ворагі яго ідэі.

Гэта так, бясспрэчна, бо па пустым месцы ня б'юць, бо на пустое месца не вядуць атакі.

У чым-жа сіла „Бел. Дня“? Шак за ім не стаіць зарганізаваная маса; ён мае пакуль што толькі прыхільнікаў і невялічкую жменьку людзей сяброў конфэрэнцыі, зьвязаных з „Бел. Днём“ думкай аб неабходнасьці арганізацыі беларускага грамадзянства вакол ідэі „Бел. Дня“.

Што-ж выклікае непакой нашых ворагаў, маючых свае арганізацыі, якія працуюць некальі год.

Непакой іх выклікае зразуменьне тае моральнае сілы і глыбіні ідэі, якая кіруе працай „Б. Д.“.

У абставінах сучаснага палітычнага жыцьця, калі наша беларускае грамадзянства знаходзіцца на бездарожжы, творчая ідэя „Бел. Дня“, ідэя працы, ідэя згоды і парадку, ідэя нацыянальнага вызваленьня, ідэя эканамічнага адраджэньня нашага краю, ідэя зямлі працоўнаму сялянству — гэта запраўдная сіла, якая патрапіць згуртаваць усё беларускае грамадзянства.

Вось гэнае моральнае нашае сілы, сілы нашай ідэі і баяцца нашыя ворагі, але аб гэтай сіле нашай ведаем добра мы. І гэная ідэя нашая зацікавіць ня толькі яго, але і шырэйшыя колы грамадзянства.

# З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА.

(Гл. № 30 „Бел. Д.“).

## „Няхай ён здохне!“...

Пасол Баран, — гэта трагічная фігура ў беларускім руху. Трагічная таму, што амаль ня ўсе адвярнуліся ад яго тады, калі ён быў асуджаны па гэтак званаму „Беластоцкаму працэсу“.

Асабіста з Бараном я ня быў знаёмы, бо прыехаў у Польшчу тады, калі ён ужо сядзеў у беластоцкай турме.

Пазьней, калі я быў арыштованы і пасаджаны таксама ў гэтую беластоцкую турму, я бачыў яго ня раз праз вакно і падчас прагулкі. Як-бы прыціснуты нейкім цяжарам духоўнага адзіноцтва, хадзіў ён узад і ўперад па турэмным двары.

— „Жывы труп“,—піша ён пра сябе сягоньня. І гэныя словы больш за ўсё гаворадь аб трагічнасьці яго лёсу.

Пагаварыць з ім мне так і не ўдалося. Але пра пасла Барана маю напісаць некалькі слоў, якія могуць

Памятаю, што ў 1924 годзе, праз 2-3 месяцы пасьля прыезду майго ў Польшчу, у самым разгары мае падпольнае працы, мне прышлося адтрымаць ад некаторых беларускіх дзеячоў прапазыцыю дабівацца ў савецкага ўраду абмены пасла Барана. Мотывы былі вельмі паважныя. Напрыклад, пасол Рак-Міхайлоўскі, які больш за ўсіх клапаціўся аб Баране, гаварыў, што ён вельмі хворы, што ён ня вытрымае турэмнага рэжыму, што маці яго хоча падаваць Прэзыдэнту Рэспублікі просьбу аб памілаваньні і г. д. і г. д. Для мяне ясна было, што трэба нешта рабіць, каб ўратаваць гэтага чалавека, пра якога ў Менску ад некаторых беларусаў я чуў шмат сымпатычнага.

Папераджаю, што сутнасьці яго судовае справы я ня ведаў. Ня ведаў таксама і таго, ці ён быў асуджаны за сваю антыдзяржаўную працу, за пэўныя чыны, ці проста асуджаны „налева“, — бо нейкім „асобам“ ён быў непатрэбны і яны хацелі яго зьесьці, як аб гэтым сягоньня ён піша ў сваім адкрытым пісьме да грамадзянства.

Перада мною тады стаяў толькі голы факт: ча-

калі ня ёсьць цяпер, то будзе ў блізкім часе зразумелай усяму беларускаму народу, бо ў краіну гэнае ідэі, у краіну сьветлае лепшае будучыны, мы вядзём народ шляхам зразумелых яму рэальных дасягненьняў.

Глыбокая вера ў сілу нашае ідэі, накладае на нас абавязак арганізаваньня беларускіх народных масаў для ажыцьцяўленьня гэнае ідэі і ад выкананьня гэнага сьвятога перад беларускім народам абавязку не паўстрымаюць нас ніякія ўколы і злосныя воклікі нашых бясьсільных ворагаў.

## ЗА АЎТАНОМІЮ!

Пачынаецца прадвыбарная кампанія ў польскі Сойм. Розныя беларускія і польскія групы і партыі навыперадкі адна перад адною будуць старацца раз'агітаваць нашу вёску, каб адтрымаць галасы і мандаты.

Пачнецца шалёная агітацыя і дэмагогія, у якой трудна будзець разабрацца ня толькі мала прывыкшаму да палітыкі селяніну, але нават і інтэлігэнту. Трудна будзець разабрацца, бо кожная партыя, кожны сьпісак будзець абяцаць якнайбольш выбаршчыку, будзе падладжвацца пад настрої, выкарыстоўваць незадаваленьне, будзе бажыцца, што толькі яна, гэтая альбо іншая партыя, зьяўляецца праўдзівым абаронцам беларускага сялянства і яго інтарэсаў.

Аднак, разабрацца трэба будзе, трэба будзе даказаць сваю нацыянальную і палітычную сьпеласьць, свой розум і сілу.

Актыўныя прыхільнікі і чытачы „Беларускага Дня“ ўжо сягоньня маюць поўнае права спытацца ў нас: „Ну, а як-жа вы? Што вы думаеце, як вы будзеце трымацца падчас гэтых выбараў, што вы будзеце абяцаць?“ На гэтае пытаньне мы адкажам коратка і ясна.

Беларусе! Рыхтуйся да выбараў і *выступай на іх, як адзін чалавек.* Гэта раз. Па другое — *злучайся не навакол асобаў, „гэнэралаў“ і партыяў, якія хочуць мець цёплыя месцы ў Сойме, а навакол яснае, рэальнае, нацыянальнае праграмы, якую трэба правясьці ў жыцьцё.*

Праграма гэтая, па нашай думцы, крыецца ў адным слове: *аўтаномія!*

Так, тэрыторыяльная аўтаномія беларускіх земляў, з сваім Соймам у Вільні, які тут на месцы мусіць вырашаць усе нашыя, як гаспадарчыя, так і нацыянальна-культурныя справы.

Гэтае аўтаноміі і трэба дабівацца ад польскага ўраду праз польскі Сойм.

І вось, калі наступяць гэтыя новыя выбары ў Сойм, а яны наступяць, як відаць, скора, беларускі народ павінен выявіць сваю нязломную волю да аўтаноміі.

За аўтаномію! Няхай жыве аўтаномія! вось той штандар, пад якім павінны злучыцца ня толькі ўсе беларусы, але і ўсе „тутэйшыя“ людзі бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі, павінен злучыцца ўвесь наш заняпалы беларускі край.

---

лавек сядзіць у турме, чалавек хворы, беларус, выбранец беларускага народу. Калі Беларускі Савецкі Урад запраўды беларускі ўрад, ён мусіць выратаваць Барана і мае магчымасьць гэта зрабіць, бо абмен палітычных вязьняў паміж Польшчаю і Саветамі адбываецца досыць часта. І я пачаў націскаць усе пружыны. Я пісаў раз, другі сваім тагочасным прыяцелям у Менск, пісаў тым, якія займаюць вельмі высокія пасты, даказваў, як толькі мог, што абмен гэты патрэбен, і калі гэнага ня будзе зроблена, то будзе скандал.

Пісаў я прыватна — і адтрымаў абяцанку, што абмен будзе зроблены. Праходзіў месяц, другі. Партыя палітычных была абменена ў Стоўпцах, — а Баран пастарому заставаўся ў турме.

Я наводзіў спраўкі праз сваіх знаёмых у Варшаве, ува ўсіх, у каго можна было навясьці тады мне гэныя спраўкі, — у адказ толькі абяцанка і больш нічога.

Гісторыя гэта пачынала мяне злаваць, бо я бачыў, што нейкая рука перашкаджаець.

Выведзены з цярплівасьці я, нарэшце, паставіў справу рубам. На адным з чарговых „паседжаньняў“ гэтак званае экзэкутывы Ц. К. К. П. З. Б., у жніўні 1924 г., якое адбывалася ў Закрэце, я востра, ультыматыўна патрэбаваў пастановы аб абмене, бо ведаў, што офіцыяльная пастанова можа мець поўнае значэньне.

І што-ж я пачуў у адказ на свой ультыматум? Тагочасны сэкратар Ц.К.К.П.З.Б. — нейкі „Шлёмка“, які знаходзіцца сяньня ў Менску ў Г. П. У. і працуе па часьці саджаньня ў вастрог усіх „podejrzanych“ беларусаў, — гэты самы „правадыр“ рэвалюцыйных рабочых і „крестьян“ З. Б., з якімі ён ня маець нічога супольнага і на беларускай мове ня можа выгаварыць і слова — красамоўна сказаў:

— *Ну, а что такое Баран? А если он для пользы партіи іздохне... ну, што-ж із гэтава... Пускай себе здыхае...*

У жыцьці кожнага чалавека ёсьць такія спатканьні і моманты, якіх ён не забудзе да свае сьмерці, якія пакідаюць у душы глыбокі сьлед. У аднаго чалавека такіх момантаў больш, у другога менш. Гэта такія мінуты, калі ўся душа, уся істота чалавека па-

# Агляд беларускага друку.

## Проекты „Сялянскае Нівы“.

Распыленае на групкі беларускае грамадзянства ня маець, пакуль што, ніякіх выразных плянаў і праграмы выбарнай кампаніі ў Польскі Сойм. Гэта бязумоўна вельмі дрэнна і ад гэтага шмат можа страціць беларускі народ. З гэтым мы цалкам згаджаемся з „Сялянскай Нівай“, якая ў № 79 — 29 кастрычніка парушаець выбарную справу ўва ўступным артыкуле „Першы крок“. Вось што „С. Н.“ піша:

„Перад усім глянем на ўклад палітычных арганізацыяў Заходняе Беларусі!...

Што-ж мы тут пабачым? А вось што!... Мы бачым добры дзесятак, як беларускіх так і польскіх палітычных партыяў, ці то ўжо болей-меней скрысталізаваных ці толькі ўзьнікаючых, якія тым ці іншым спосабам будуць імкнуцца заманіць беларускага селяніна, каб на яго сьпіне вывезьці сваіх кандыдатаў да пасольскіх мандатаў. *Гэтакі стан рэчаў зьяўляецца вялікаю пагрозаю для Беларускага Народу.* (Курсыў наш). Калі пачнуць скубаці яго і калі вырвуць па аднэй ды па другой пярынцы, дык ясна, падушкі ня будзе.

Пры гэтакім стане рэчаў Беларускі Народ бязумоўна вельмі многа страціць!... Дык дзеля гэтага і зьяўляецца абавязкам таго, ад каго залежыць, пастарацца, каб магчымае няшчасьце адхіліць, ці прынамся паменшыць.

Хто можа і як павінен пакіравацца да ўхіленьня *магчымага няшчасьця?* Бязумоўна той, хто кіруе цяпер палітычнымі акцыямі партыяў і групіровак.

Мы ведаем, што мясцамі сярод беларускага жыхарства маюць, праўда, нязначныя ўплывы польскія, але-ж перавага ўсё-ж такі на старане беларускіх партыяў.

Дык першым крокам да ўхіленьня няшчасьця павінна быць, *каб запраўды беларускія партыі паразумеліся паміж сабою і стварылі беларускае аб'ядnаньне,* а тады ўжо, каб у далейшай сваёй працы можна было асягнуць найлепшыя рэзультаты.

Хто-ж павінен тварыць беларускае аб'яднаньне?

Ужо ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, што, як-бы ні працавалі, ў якіх-бы адносінах у сваёй папярэдняй працы ні канкуравалі, дык і па стажу і багажу працы і па ўзнаньні і па велічыне ўплываў зьяўляюцца запраўднымі выявіцелямі інтарэсаў і жаданьняў Беларускага Народу: Беларускі Сялянскі Саюз, Беларуская Хрысьціянская Дэмакрацыя і тая група, якая так ці іначай арганізована ці арганізуецца каля „Нашай Працы“.

Дык вось гэтыя *тры палітычныя волаты(?!)* павінны стварыць беларускае аб'яднаньне.

Вельмі характарным для гэтага „волата“ з „Сялянскай Нівы“ зьяўляецца *няпэўнасьць* у сваіх уласных сілах, аб якіх ён увесь час трубіў, а сягоньня, калі справа дайшла да мандатаў, гатоў зблёкавацца з кім хочаш, хоць-бы нават з чортам. Як вядома Ярэміч ня так даўно рыхтаваўся да левае „16“ (соцыялістычнае) і нават дэкляраваў на нейкай соцыялістычнай нарадзе ў Варшаве, што ён праўдзівы стопроцэнтны соцыялісты. Соцыялістыя запраўдныя напэўна яму не паверылі, і вось Ярэміч ад соцыялізму кінуўся направа ў абоймы капіталізму і, як кажуць, хоча прыняць удзел у арганізацыі правае „16“ з нямецкімі фабрыкантамі і жыдоўскімі купцамі. Але відаць расчотлівыя купцы і там яго неахвотна прыймаюць аднаго і прапануюць ня больш ня менш як зацягнуць у гэтую авантуру беларускую хадэцыю і... б. Грамаду. (група „Наша Праца“) — Ня ведама, як прымець прапазыцыю Ярэміча група „Наша Праца“, але нам здаецца, што пасьля арышту Луцкевіча такая камбінацыя ня ўдасца і саюз „трох волатаў“ павісьне ў паветры.

## Пазыцыя „Biełaruskaj Krynicy“.

У артыкуле „Да зьезду прадстаўнікоў Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі“, у якім абгаварваюцца заданьні зьезду, „Biełaruskaja Krynica“ між іншым парушае і справу выбараў у новы польскі Сойм, — парушае як відаць з ніжэйвыдрукаванага асьцярожна і агульна, бяз высоўваньня комбінацыяў і плянаў, якіх Б. Хрысьціянская Дэмакратыя альбо яшчэ ня мае, альбо ня

---

чынаець жыць поўным жыцьцём, калі сэрца б'ецца мацней і мацней, і хочацца альбо кінуцца на шыю і цалаваць, і плакаць, і радавацца, і дзякаваць жыцьцю, альбо сьціснуць сэрца і кулакі, і пакляцца на ўсё жыцьцё быць ворагам, і мсьціць бяз літасьці. Памятаю, што пасьля слоў гэтага „Шлёмкі“ шалёная, трудна перадаваемая ненавісьць ахапіла мяне, і гэтага паршывага чалавечка, гэтага тыповага ката і чэкіста хацелася мне тады задушыць, замучыць самым бесчалавечным, зьверскім спосабам.

— Гэта подласьць! — крыкнуў я яму і „паседжаньне“ было скончана.

Я доўга ня мог супакоіцца пасьля такое „пастановы“.

Аб гэтым „Шлёмцы“ мне ня раз яшчэ прыдзецца гаварыць, але вось што-ж вышла з Бараном?

Трохі пазьней мне перадавалі, што пасол Баран не абменены таму, што быццам палякі прасілі за яго ў абмен прыгаворанага да сьмерці б. польскага консуля ў Тыфлісе п. Лашкевіча і яшчэ некалькі важных палітычных вязьняў з Бутырак, і што на тэта ўрад савецкі ня мог згадзіцца.

Так, прынамсі, тлумачыўся пан Баркусэвіч, б. савецкі пасол у Рызе, перад адным беларускім паслом. Ня ведаю, ці гэта так. Здаецца мне, што камуністыя тут самым бясстыдным, самым подлым спосабам ашуквалі гэтага пасла, які потым стаў „грамадаўцам“ і проста вадзілі за нос беларускіх дурачкоў. Глыбока ў гэтым пераканаңы, бо ніколі не паверу таму, што палякі асобе Барана надавалі такое важнае значэньне.

Яшчэ пазьней, калі я ўжо знаходзіўся ў беластоцкай турме і цікавіўся Бараном, — я даведаўся, што вязьні камуністыя ня зносілі асобы Барана за тое, што ён трымаўся ад іх незалежна і ня прымаў удзелу ў некаторых „камуністычных“ галадоўках і авантурах, часам зусім бессэнсоўных, на што ён меў поўнае моральнае права, як сябар другое партыі, зусім некамуністычнае.

— Шовіністы, беларускі шовіністы, — гаварыў мне адзін вязень небеларускае нацыянальнасьці, стараючыся пераканаць мяне рознымі плёткамі, што Барана ня трэба шанаваць.

Адно да другога. Факт да факту. Пераканаңы ў тым, што камуністыя ня любілі Барана не за яго

хоча выказаць. „Biełaruskaja Krynica“ заклікае, пакуль што, толькі да актыўнасьці падчас выбараў. Яна піша:

„Які-б у Польшчы Сойм быў ня жыцьцяздольны, які-б урад над ім ня глуміўся, усё-ж такі значэньне яго калі ня ёсьць, то яшчэ можа быць — аграмаднае. Вось чаму наша беларускае грамадзянства павінна быць напагатове і ў разе патрэбы пайсьці на выбары, *як адзін чалавек*. А гэта толькі магчыма тады, калі мы, ладзячы зьезд, падлічым свае сілы, падгатовімся да пашырэньня сваей ідэолёгіі і гэтым станем сільнейшымі.

## Пазыцыя „Нашае Працы“.

Газэта гэтая, па сваёй ідэолёгіі блізкая да б. Грамады, таксама не заняла яшчэ выразнае пазыцыі наконта выбараў у польскі Сойм і, як відаць з артыкулу „Гэнэральная рэпэтыцыя“ (гл. № 7, 22 кастрычніка), ні на якую ўгоду з іншымі беларускімі групамі не пайдзець; увойдзець у сялянска-работніцкі міжнацыянальны блёк, калі такі блёк удасца з'арганізаваць. Ініцыятарамі гэнага блёку будуць бязумоўна камуністыя, якія пастараюцца выкарыстаць гэны блёк для сваіх мэтаў і павясьці на вёсцы самую бесшабашную дэмагогію і агітацыю, каб запакаваць у турмы якнайбольш беларускіх сялян і гэным яшчэ больш абвастрыць нацыянальныя адносіны ў Польшчы на карысьць... Масквы. Што неякі скрыты плян ёсьць, аб гэтым сьведчаць хоць-бы такія словы ў артыкуле „Гэнэральная рэпэтыцыя“.

На будучую гульню ён (урад) прыгатаваў нейкія *скрытыя козыры, пры дапамозе якіх і думае выграць*. Калі мае рацыю апошняе, то ці ня выкрываюцца ўжо гэтыя козыры ў падзеях самага апошняга часу, як уняважненьне выбарных сьпіскаў у радзе мест, *арыштах выбраных ужо радных* (у Горадні, напрыклад), ды ўрэшце апошнія арышты ў Вільні? Магчыма...

Але беларускія сялянска - работніцкія гушчы бязумоўна не спалохаюцца гэтага. Яны ў апошніх выбарах паказалі сваю грамадзкую сьпеласьць і магчымае ўжываньне *скрытых козыраў* толькі загартуе іх у змаганьні за сваю долю і злучыць іх яшчэ ў дружнейшую работніцка-сялянскую сям'ю.

Адным словам: Ура! Арыштаў мы не баімося, бо яны нам (Маскве) патрэбны. *Х.*

## Ад Рэдакцыі „Беларускага Дня“.

Усім падпісчыкам „Беларускага Дня“, якія аплацілі падпісную плату да Новага Году, будзе бясплатна разасланы, як дадатак, № 2—3 „Беларускай Культуры“.

## Сьвяткаваньне 10-леццья белар. сярэдняе школы.

1 лістапада г. г. адбылося сьвяткаваньне 10-цьлецьця беларускае сярэдняе школы ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі. Сьвяткаваньне ладзіла Т-ва Беларускае Школы, якое з'арганізавала „ўрачыстую“ акадэмію з канцэртным аддзелам. Публікі было шмат. Саля прыгожа ўбраная з 2-мя рысункамі беларускага маляра Сергеевіча. Зьвяртаў увагу абраз „Паход да сонца“, ў якім сымвалічна прадставіў імкненьне Беларускага Народу да асьветы ў роднай мове.

Акадэмія пачалася прамовай-рэфэратам гр. А. Трэпкі аб беларускай школе. Лектар гр. А. Трэпка, знаны беларускі пэдагог, як раз зьяўляецца неадпаведным у ролі прамоўцы на акадэміі. Было многа слоў аб даўно ўсім вядомых рэчах, як: што такое школа ў роднай мове, слоў, гавораных з вялікім пад'ёмам і лірыкаю, было многа слоў аб асобе б. дырэктара Астроўскага, але зусім мала гаварылася аб сярэдняй беларускай школе, яе працы і дасягненьнях.

Лектар часта мыляўся ў цыфрах і датах, ня мог прачытаць заметак, пісаных відаць чужою рукою. Даклад выклікаў сьмех і чаканьне хутчэйшага канпа.

Канцэртны аддзел: дэклямацыі, сьпевы хору і солё былі выкананы вельмі добра. Асабліва добрае ўражаньне асталося пасьля апошняга нумару хору „Requiem“, выкананьне якога паставіла вучнёўскі хор Віленскай Беларускай Гімназіі на першае месца паміж вучнёўскімі хорамі Вільні. Зьяўляецца гэта заслугаю дырыгэнта гр. Шырмы.

Прысутнымі былі прадстаўнікі польскае дэмакратычнае групы і літоўскага грамадзянства. *С.*

пераканаиьні, а за тое, што ён — Беларус і замешаны ў беларускім нацыянальным руху.

— Няхай ён здохне!... адчувалася і ў турме, бо, як мне вядома, „Мопр“ нічога не пасылаў яму, і Баран у турме часта галадаваў папраўдзе. Дык ці-ж можна было думаць аб нейкім абмене, аб літасьці, аб гуманнасьці да яго? Толькі наіўныя людзі маглі мець наконта гэтага нейкія ілюзіі і да гэных наіўных магу сьмела залічыць і некаторых менскіх беларусаў, займаючых савецкія пасады.

Мяне сягоньня ўжо зусім ня дзівяць адносіны камуністых да Барана, мала мяне дзівілі гэныя адносіны і тады, калі я быў у падпольлі, але вось што мяне дзівіць, як гэта некаторыя яго беларускія калегі, якія выбраны былі разам з ім па аднаму сьпіску, разам сядзелі з ім у адным клюбе, — як гэта яны, каторыя так ратавалі за Барана і хвалілі яго, дабіваліся абмену праз мяне, праз іншых, як гэта яны так лёгка і спакойна прынялі факт адказу ў абмене і пагадзіліся з гэтым, ведаючы, што далейшае прабываньне ў турме ўзапраўды пагражае яго здароўю і жыцьцю.

„Жывы труп“ — гэтыя словы ня можа выгаварыць чалавек, які маець моральнае падтрыманьне. Так можа гаварыць толькі чалавек пакінуты...

Сяньня пасол Баран робіць стараньні перагляду свае справы ў Найвышэйшым Судзе Рэспублікі. Калі праўда, што гавораць, быццам яго просьбе дадзены ход, то асабіста я, які калісьці хацеў ўратаваць яго, як чалавека і беларуса, ня ведаючы яго зусім, вельмі рад быў-бы, каб гэты „труп“ ажыў ня толькі фізычна, але і як актыўны беларускі дзеяч. У значнай меры гэта залежыць ня толькі ад Барана, але і ад беларускага грамадзянства. Камуністыя хацелі, каб ён *іздох*, мы павінны хацець, каб ён жыў, бо ён — беларус.

(Працяг будзе).

Вільня. *М. Гурын.*

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Жыцьцё ў зямлі — нявіднае для вока.

Усюды ў зямлі кіпіць жыцьцё бесканечнага ліку жывых стварэньняў, гэтак званых мікраарганізмаў ці бактэрыяў, якіх мы ня можам убачыць звычайным вокам. Яны ня толькі жывуць, але маюць і вялізарнае значэньне на жыцьцё расьлін, жывёлы і людзей. Гэны ўплыў калі шкодны, калі карысны, ня спыняецца ні на адну хвіліну. Мікраарганізмы, якія жывуць у зямлі, робяць там складаныя хімічныя працэсы, ад якіх залежыць пладаноснасьць грунту. Гэтыя, так званыя, грунтовыя бактэрыі выконваюць у зямлі складаныя функцыі, напрыклад асымілююць з паветра элемэнтарны азот, які ўжываюць для будаваньня свайго цела. Пасьля, як бактэрыі паміраюць, азот гэны пераходзіць у расьліны, якімі пасьля корміцца жывёла і ўжывае яго для будаваньня свайго цела.

Яшчэ ў першай палове 19 сталецьця хімікі прыдавалі вялікае значэньне працэсам гніцьця, разлажэньня і фэрмэнтацыі. Адзін з першых хімікаў, вельмі вядомы нямецкі вучоны Лебіг думаў, што разлажэньне ёсьць чыста хімічны працэс, выкліканы дзейнасьцю розных газаў, і толькі ня гэтак даўно было канстатована, што гніцьцё і фэрмэнтацыю твораць мікраарганізмы, якія разбураюць, дзякуючы тварэньню кіслотаў, мінэральныя часьціны грунту і пераводзяць яго з формаў нераспушчальных у рошчыны, даступныя для кармленьня расьлін. Пасьля жыцьця прыходзіць сьмерць і з сьмерці творыцца ў прыродзе новае жыцьцё. У целе памёршых мікраарганізмаў знаходзяцца тыя хімічныя элемэнты, якія патрэбны для кармленьня новых расьлін і жывёлы. Чым больш у грунце бактэрыяў, тым хутчэй праходзяць там хімічныя працы, і грунт тады мае большую плоднасьць. Неабходная колькасьць вады, паветра, тэмпэратуры і арганічнай матэрыі ў грунце прысьпяшае дзейнасьць бактэрыяў і робіць грунт болей пладаносным. Часта грунт, як быццам па сваім хімічным складзе і мусіў-бы быць пладаносным, але фактычна дае малыя ўраджаі, дзякуючы таму, што бактэрыялёгічныя працэсы не праходзяць там інтэнсыўна. Вось чаму ў апошнія часы пры клясыфікацыі пладаноснасьці грунтаў зварочваецца вельмі вялікая ўвага на вітальныя працэсы, як індыкатар якасьці грунту.

Асаблівая ўвага зварочваецца на бактэрыі, якія асымілююць элемэнтарны азот з паветра. Так, напрыклад, калі ў адным граме зямлі ёсьць 8—10 мільёнаў такіх бактэрыяў, то такі грунт можна, як прапануюць некаторыя вучоныя, лічыць вельмі добрым, калі-ж ёсьць у адным граме, напрыклад, толькі 2 мільёны гэткіх бактэрыяў, то можна ўжо з пэўнасьцю сказаць, што гэты грунт ужо вялікіх ураджаяў *не дае*. Калі мы выцягнем асьцярожна з грунту каліва якой-небудзь матыльковай расьліны (канюшыны, вікі, сарадэлі, лубіну), то ўбачым, што на карэньнях ёсьць невялікія нарасты, ў якіх жывуць бактэрыі, якія асымілююць элемэнтарны азот, і вось дзеля гэтага матыльковыя расьліны маюць у гаспадарцы такое вялікае значэньне.

Кожная з матыльковых расьлін толькі тады добра родзіць, калі ёсьць у грунце адпаведны род бактэрыяў, які жыве ў сымбіозе (сужыцьці) з гэтаю матыльковаю расьлінаю.

Калі пасеем канюшыну на тым месцы, дзе яна яшчэ ніколі не расла, то звычайна першы раз вялікіх ураджаяў ня бывае, бо няма яшчэ ў грунце адпаведнага роду бактэрыяў. Былі зроблены розныя прэпараты розных відаў такіх

## Чаму мы аўтанамістыя?

Заходняя Беларусь, паўночная частка г. зв. „Крэсаў" зьяўляецца асобняй, непадобнай да другіх краін, уваходзячых ў склад Польшчы.

Адменны тут клімат, насельніцтва і прырода. Іншы на землях беларускіх гаспадарчы ўклад жыцьця, іншы цывілізацыйны ровень насельніцтва.

Мала таго, Заходняя Беларусь у значнай сваёй часьці на ўсходзе была зьвязана гаспадарча з тэю часьцяй, што пасьля смутнай памяці Рыскага міру, апынулася за межамі Польшчы.

Цяпер гэная сувязь парвана. Гаспадарчыя цэнтры знаходзяцца далёка на Захадзе. Абслугоўваецца яна бліжэйшымі провінцыямі Польшчы, якія маюць натуральную добрую з імі сувязь.

Усходнія землі Польшчы, займаючы абшар каля 170.000 кілёмэтраў складаюць зусім адменны гаспадарчы, кліматычны і географічны абшар, які найболей выразьняецца ад польскіх земляў характарам свайго насельніцтва.

Усе статыстыкі, усе досьледы над складам насельніцтва Польшчы сьцьвярджаюць перавагу на гэтых землях няпольскага насельніцтва.

За 7 гадоў жыцьця пад Польшчай, пры саваньні ўва ўсіх пачынаньнях польскіх урадаў палітыкі, якая-б зацёрла гэную розьніцу беларускіх земляў, насельніцтва іх, паміма каланізацыі і паланізацыйнае работы ўсіх польскіх дзейнікаў, захаваўся і паглыбіўся беларускі характар гэтых земляў. Працэс нацыянальнага усьведамленьня пашыраецца і паглыбляецца па меры наступу на беларускія асаблівасьці.

Польская Рэспубліка складаецца з трох вялікіх часьцін, якія ад канца XVIII стагодзьдзя жылі ў адменных палітычных, культурных і гаспадарчых абставінах.

За сто з лішкаю гадоў у кожнай з іх вырабіліся зусім адменныя гаспадарчыя і культурныя асаблівасьці. Тым болей, што быўшыя заборчыя ўрады вялі палітыку паглыбленьня гэнае розьніцы.

У выніку гэтага ў Польшчы бачым вялікую рознахарактарнасьць, якая кідаецца адразу ў вочы, калі праехаць дзяржаву з ўсходу на захад. Найбольш занядбанымі культурна і гаспадарча зьяўляюцца беларускія землі, якія ў працягу многіх дзесяткоў гадоў існаваньня незалежнай Польшчы і пасьля яе ўпадку лічыліся за акраінныя землі, якія прымаліся пад увагу, як апэрацыйная база, як тэрыторыя, на якой магчыма

бактэрыяў, каб іх даваць у грунт і пасіліць бактэрыялёгічныя працэсы, але, пакуль што, ўсе гэтыя экспэрымэнты ня маюць для нашага сялянства практычнага значэньня.

Дадае ў грунт бактэрыі галоўным чынам гной, на які ў апошнія часы глядзяць, як на матар'ял, які дадае ня толькі пажывы ў грунт, але і пасільвае бактэрыялёгічныя працэсы. Гэты досьлед мае вялікае практычнае значэньне: абавязкова трэба на поле даваць гной хоць адзін раз у чатыры гады, але найлепш даваць хоць пакрысе, але *кожны год*, каб бактэрыялёгічныя працэсы праходзілі ўвесь час з аднальковаю інтэнсыўнасьцю.

Апрацаваньне грунту трэба заўсёды вясьці так, каб былі найлепшыя варункі для разьвіцьця бактэрыяў, каб было ў грунце даволі паветра, вільгаці, арганічнай матэрыі і г. д. *П.*

## Як абходзіцца з жывёлаю зімою.

Кожнаму гаспадару ходзіць аб тое, каб меў з жывёлы якнайбольшую карысьць. Хто мае каровы, той мусіць старацца, каб яны давалі якнайбольш малака, а з ялавак і цялят каб выраслі добрыя каровы. Да гэтага дойдзем, калі датрымаем усе патрэбныя варункі, каб жывёла была ў здаровым стане.

Мала даць жывёле есьці столькі, каб яна ня здохла з голаду, трэба ёй даць есьці столькі, каб ня толькі заспакоіць голад, але каб засталіся яшчэ пажыўныя матар'ялы на вытварэньне малака ці прыросту. Для утрыманьня жывёлы ў здаровым стане, апрача добрай пашы, прычыняюцца яшчэ і іншыя абставіны, аб якіх ён заўсёды мусіць памятаваць, асабліва зімою, калі жывёла ўвесь час стаіць у хляве.

Каб паша, што даём жывёле, ішла на карысьць, трэба датрымоўваць усе варункі добрага утрыманьня, перш за ўсё чыстату і адпаведную тэмпэратуру ў стайні.

Як і чалавек брудны, нямыты робіць няпрыемнае ўражаньне, таксама і быдла, ўваленае ў гнаі, робіць ня лепшае ўражаньне, і гэта сьведчыць аб тым, як вядзецца гаспадарка, а галоўнае, што жывёла ў такіх абставінах вельмі дрэнна сябе чуе. Малако ад каровы, трыманай у чыстаце, мае зусім іншы смак, чым ад каровы зусім бруднае. Бруд зьляпляе шэрсьць і затыкае поры, праз якія жывёла выдзяляе розныя шкадлівіны. Тады, калі поры залеплены, пот застаецца ў целе, што вельмі дрэнна ўплывае на здароўе, асабліва кароў малочных, якія тады даюць малака значна менш. Для утрыманьня здароўя неабходна жывёлу чысьціць.

Чысьціць трэба па магчымасьці кожны дзень, найлепш з раніцы, у такім часе калі жывёла ня есьць і ня жуе жвачкі, бо гэта яе супакоіць. Чышчэньне трэба пачынаць з таго, што скуру выціраем мягкаю сухою саломаю. Пасьля чысьцім шчоткаю па шэрсьці ці наўскасяк. Шчотак найлепш ужываць з цьвёрдае шэрсьці ці рысавай саломы, апошнія ўсё-ж такі у хуткім часе забіваюцца брудам і шэрсьцю. Можна таксама ўжываць і спэцыяльных шчотак з тонкага элястычнага дроту. Скрабніца павінна толькі чысьціць шчотку, але ніколі ёю ня можна чысьціць жывёлы, бо скрабніца чысьціць дрэнна і можна жывёлу скалечыць ці знаравіць.

Там, дзе бруд засох і немагчыма шчоткаю адчысьціць, трэба тое месца абмыць, а пасьля выцерці саломаю і шчоткаю. Часта чышчэньне ня толькі ўхіляе бруд з скуры, але таксама забараняе разьвіцьцю розных апівошаў.

Другім варункам утрыманьня чыстаты ёсьць адпаведны хлеў і чыстае стойла. Заўсёды жывёла мае быць добра падасланая. Найлепшым матар'ялам на падсьціл ёсьць салома, бо ўбірае ў сябе шмат вільгаці і дае добры гной. Найлепш салому на падсьціл парэзаць на большыя кавал-

---

вясьці вайну. Дзеля гэтага дзяржава не ўкладала выдаткаў на падняцьце гаспадаркі беларускіх земляў, і яны культурна і гаспадарча ўпадалі ў параўнаньні з іншымі часткамі нават быўшай царскай Расеі.

Мала ў гэтым напрамку зьмянілася цяпер.

Вядомай рэчай зьяўляецца тое, што дагэтуль нашыя землі, зьнішчаныя многімі гадамі войнаў, ізноў бяруцца пад увагу, як месца магчымай аружнай барацьбы паміж Польшчай і ўсходнім суседам.

Дагэтуль у адносінах да беларусаў дзяржава стасавала іншую мерку, чымся да польскага насельніцтва. Беларусы лічыліся заўсёды, як грамадзяне другое катэгорыі, якіх трэба спалянізаваць.

Паводле эндэцкіх „пророкаў", якія так фатальна наставілі ўрадавыя адносіны да беларускіх масаў, гэнае спалянізаваньне беларусаў мела згладзіць усе розьніцы паміж землямі беларускімі і этнографічнай Польшчай. Вынарадаўленьне беларусаў мела, паводле пагляду эндэцыі і другіх польскіх шовіністых, падняць гаспадарку, перарабіць псыхолёгію і скасаваць вякамі выробляны характар беларускіх земляў.

Гэтая палітыка давяла да вытварэньня немагчымых, з пагляду беларускага і памыснасьці ўсяе дзяржавы, адносін на беларускіх землях, якія гаспадарча і культурна не здабылі нават таго, што адтрымалі іншыя польскія провінцыі за час існаваньня незалежнасьці Польшчы.

Вынікала гэта дзеля таго, што гаспадарчыя і культурныя патрэбы беларускіх зямель ня мелі зразуменьня ані ўва ўрадзе, ані ў Сойме, дзе большасьць ня мела паняцьця аб гэтых патрэбах і заглядалася на Заходнюю Беларусь, як на об'ект калянізацыі і вынарадаўленьня няпольскага насельніцтва.

Польскія паслы, выбраныя беларускімі галасамі, парвалі сувязь з інтарэсамі насельніцтва і краю, ня дбалі аб ягоных патрэбах, ня будучы нічым з краем зьвязанымі. Беларускія паслы ня мелі ўплываў і зразуменьня сярод большасьці Сойму і ўраду. Разьбітыя на варожыя групы ад часу развалу Пасольскага Клюбу, яны ня мелі ніякага значэньня.

Дзеля гэтага вялікая частка Рэспублікі, так адменная па структуры свайго гаспадарчага жыцьця ад рэшты Польшчы, аказалася без сапраўднага прадстаўніцтва ў цэнтральных органах, якія дбалі-б аб здаваленьні патрэбаў краю.

*Саўліч.*

(*Канец будзе*).

Хто хоча купіць якое-небудзь гаспадарчае прыладзьдзе ці машыну найлепшае якасьці і найтаньней, той няхай зварочваецца да рэдакцыі і мы заўсёды бясплатна парадзім, дзе можна купіць якую машыну. Маючы на мэце памагчы нашаму сялянству, мы запрасілі спэцыялістага па гаспадарчых машынах і ўмовіліся з некаторымі фірмамі, што яны будуць для таго, хто зьвернецца праз нас, прадаваць машыны крыху таньней.

кі, бо тады выходзіць саломы менш. Парэзаная салома ўбірае ў сябе больш мочы, і гной з такога падсьцілу пасьля лепш раскідаецца па полі, і лепш заорваецца. Апрача саломы, можна ўжываць на падсьціл яшчэ і іншых матар'ялаў, як напрыклад моху, лісьцьця, пілавін, калі яны добра высушаны, торфу і г. д. Даюць яны фактычна горшы гной, але там, дзе саломы недахват, то і такі падсьціл добры.

Чым лепшы падсьціл, тым больш ён убірае ў сябе усялякія газы, як напрыклад амоньяк, дзякуючы чаму і паветра ў стайні заўсёды чысьцейшае. На паветра мы заўсёды павінны зварочваць вялікую ўвагу, бо чым чысьцейшае паветра, тым здаравей для жывёлы.

У дрэнным паветры лёгкія слабеюць і арганізм лёгка паддаецца розным хваробам. Улетку утрымаць чыстае паветра ня цяжка, шмат горш зімою, калі жывёла ўвесь час стаіць у зачыненым хляве. Дзеля гэтага трэба ў добрую пагоду выпушчаць жывёлу на двор, хаця-б на адну гадзіну, каб магла удыхнуць сьвежага паветра і, як кажуць, расправіць косьці ад заўсёднага стаяньня. У добрых хлявох заўсёды робяцца вэнтылятары ў форме коміна, зьбітага з чатырох дошчак ці іншае сыстэмы. У прыгожую, цёплую пагоду можна таксама на некаторы час адчыняць дзьверы.

Для здароўя і прадукцыйнасьці найлепшая тэмпэратура ў хляве 16° C, пры якой жывёла пачувае сябе найлепш. Вышэйшая тэмпэратура таксама шкодзіць, бо жывёла становіцца больш далікатнаю, баіцца холаду, слабее і пасьля лёгка можа захварэць. Таксама і нізкая тэмпэратура шкодзіць, бо тады патрэбна больш пашы, што зусім зразумела. Цела мусіць трымаць адпаведную тэмпэратуру (38° C), якая вытвараецца з пашы. Калі жывёла знаходзіцца ў халодным месцы, то тады трэба ў тым самым часе вытварыць больш цяплыні і значыць больш спажыць пашы. Тая часьць пашы, якая ў адпаведна цёплай стайні пашла-б на вытварэньне малака ці мяса, ідзе, ў такім выпадку, на вытварэньне цяплыні. Асабліва на маладняк дрэнна ўплывае холад і часта здараецца, што цяляты адмарожваюць сабе вушы ці ногі.

Хлеў, перш за ўсё, мае быць добра дагледжаны, трэба даглядзець каб ня было нідзе шчылін, вокнаў затыкаць саломаю ня можна, бо будзе цёмна, хіба толькі на-нач. Дзьверы мусяць добра зачыняцца і можна аблажыць іх саломаю. Салома, ўбіраючы вільгаць, забараняе абмярзаньню дзьвярэй. *П.*

# Барана і яе праца.

Няма таго гаспадара на зямлі, які ня меў бараны, але перад тым, як абзаводзіцца бараною, трэба добра разумець, якую працу павінна выпаўніць барана і ці заўсёды трэба баранаваць, як гэта робяць у нас, і ці ня бывае, часамі, вялікае шкоды ад вельмі частага баранаваньня? Каб даць ясны адказ на гэтыя пытаньні, восьжа разгледзім, што такое правідлова зробленая барана? Кляса баронаў, як і сходных з ёю па працы, культыватараў, вельмі вялікая. Усе бароны дзеляцца па свайму назначэньню дзеля працы, па велічыні іх, і па тым, з якога матар'ялу і як яны зроблены. Па назначэньню для працы адрозьніваюць бароны палявыя і лугавыя або балотныя. Вось-жа значэньне бараны ў высокай ступені важнае: яна павінна дапаўняць работу плуга, закрываць зямлёю насеньне, ламаць корку на полі, якая бывае пасьля вялікага дажджу, ачышчаць грунт ад сьметнякоў і іх карэньняў. Працаю бараны гэтак сама можна рэгуляваць ступень вільгаці ў грунце, альбо, іначай кажучы, бараною можна высушыць поле і нават перасушыць яго, альбо затрымаць воду на даўжэйшы час. Даўно ўжо практыка вучоных гаспадароў даказала, што няўмелаю працаю бараны можна прынясьці вялікую шкоду на загоне. Гэтая шкода бывае ня толькі ад таго, што ў нас вельмі зачаста барануюць неўпапад, калі трэба гэта рабіць, але больш усяго шкодзіць самае ўстройства бараны і яе зубоў. Ёсьць ведама, што калі барана занадта лёгкая, то яна вельмі скача па полі, дзеець, як кажуць, ударам, што вельмі распыляе грунт; гэтак-жа надта моцна распыляюць почву і ўсе бароны, ў якіх зубы круглыя ды яшчэ й тупыя. Дзеля гэтага заўсёды вымагаецца, каб барана была хутчэй цяжкаватая, чым лёгкая, і тады яна будзе мець роўны (плаўны) ход, зубы яе, каб былі вострыя і па сваёй форме скарэй нажавыя, альбо квадратовыя, але ніколі ня круглыя. К вялікай шкодзе ў нашых гаспадарках найбольш распаўсюджаны бароны-пляцёнкі, якіх устройства і праца іх нікуды ня варта, бо яны вельмі распыляюць землю і зусім ня могуць справіцца з сьметняковымі травамі і большымі грудамі зямлі, а па ўзораных навінах і адлогах толькі коўзаюцца ды робяць кару на грунце.



Барана тыпу Ляакэ.

Добра зробленая барана павінна мець зубы падобныя на шырокі нож, альбо нават квадратовыя, якія мусяць быць зроблены з самага лепшага, ня ломкага, мягкага жалеза, а яшчэ лепш з мягкай сталі. Самая рама бараны павінна быць найлепш з карытавыгляднага або вуглавога ці квадратовага жалеза, альбо ў крайнасьці з моцнага дзерава. Пры гэтым зубы ў дзеравяннай раме павінны быць пастаўлены на вострыя кант уперад, а самае вастрыё зубоў адкована так, каб можна было працаваць баранай уперад і назад і каб пры працы ўперад зуб браў глыбей, а пры працы назад — мялчэй. Сьляды ад зубоў ніколі не павінны ісьці адзін за адным, а кожны зуб— мець свой сьлед на роўнай адлежнасьці адзін ад аднаго. У добра збудованае бараны бывае ня больш, як 20 або 24 сьляды зубоў на грацягу аднаго мэтра.



Барана тыпу Гаварда.

Барана павінна добра прылягаць да зямлі, каб парушала і няроўнасьці грунту, не павінна запіхацца карэньнямі і травою, не гарнуць пад сябе зямлі, лёгка і пасьпешна ісьці за канём. Калі рабіць бараньбу, гэта залежыць ад мэты баранаваньня: дзеля зьнішчэньня сьметняковых травоў, трэба баранаваць тады, калі яны добра не ўкараніліся. Наагул, баранаваць трэба поле тады, калі яно ня вельмі сырое і ня зусім сухое, бо ў першым выпадку, замест разрыхленьня, яшчэ больш грунт поля стужэе, а ў другім — грунт раздрабняецца на пыл. Найлепшымі баронамі з жалезнымі рамамі ёсьць бароны сыстэмы Сакка, трохі меншыя за іх, бароны сыстэмы Гаварда ды яшчэ польныя бароны Ляакэ. А з баронаў з дзеравяннымі рамамі — сыстэмы Гэльфэрых-Садэ.

*Я. Х.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

## Натуральная і штучная вуза.

Вуза, як натуральная, так сама і штучная, робіцца з воску. Як адна, так і другая складаецца з роўных шасьцібаковых чарачак. Толькі ў тым розьніца, што гэтыя чарачкі ў натуральнай вузе пчолкі робяць двух гатункаў: адна з іх меншага разьмеру, гэта чарачкі пчаліныя тыя, значыцца, каторыя ўжываюцца для выводу маладых пчолак, другія з іх большага разьмеру, гэта тыя, якія ўжываюцца для выводу трутняў. Часам пчолкі ў адной і той самай рамцы, альбо як у калодзе, ў адным і тым самым пляйстры, робяць чарачкі абодвых гатункаў, з прычыны чаго паміж чарачак паўстае вольнае месца, з якога пчолкі ўжо ня могуць зрабіць правідловае чарачкі, а робяць такую, якая выйдзе г. зн. пяцібаковую, альбо чатырох-баковую і т. д. Чарачкі першага гатунку, як другога, калі яны не заняты чарвою, служаць пчолкам для складаньня мёду; напоўненую чарачку пчолкі запячатваюць чыстым воскам, бо трэба ведаць, што і чарачку з чарвячком гэтак сама пчолкі запячатваюць, але ўжо ня чыстым воскам, а воскам, зьмешаным з пяргою, гэта значыць дзеля таго, каб накрыўка на чарвячку мела дзірачкі, праз каторыя магло-б уваходзіць вольнае паветра, каторае для чарвячка, як для кожнага жывога стварэньня, зьяўляецца неабходным. На канцох рамак, альбо наагул на канцох вузы пчолкі робяць часам чарачкі і трэцяга гатунку, г. зв. матачнікі, каторыя адрозьніваюцца ад двух папярэдніх тым, што яны круглыя і падобныя да жалуда. Гэтыя чарачкі пчолкі робяць у тым выпадку, калі хочуць вывясьці маладую матку. Гэтыя чарачкі, так сама, як і накрыўка на чарвячку, робяцца з воску і з пяргі. На гэтыя матачнікі вельмі шмат ідзе воску і дзеля гэтага, як толькі матка вывядзецца, пчолкі раскідаюць яго, а астаецца адно падстава, каторая мае форму шапачкі жалуда. Матачныя чарачкі зьвісаюць заўсёды ўніз, тады як чарачкі пчаліныя і трутнёвыя маюць ляжачае палажэньне, чуць толькі паднятыя к верху, а гэта дзеля таго, каб мёд накладзены ў чарачку, і яшчэ незапячатаваны, не выліваўся. Воск, з каторага робіцца вуза, ня зьбіраецца пчолкамі, як мёд і пярга, а вырабляецца ў целе пчалы, ў залежнасьці ад мёду, адумыснымі жылкамі і потым выдзяляецца тоненькімі пласткамі на яе жыватку, скуль яго пчолка зьдзірае лапкамі, перажоўвае і ўжывае на рабленьне вузы. Вылічана, што для зробленьня аднаго фунта воску, патрабуецца ад 15-цёх да 20-цёх фунтаў мёду. Вага ўсяго воску ў вульлі ёсьць два, а найболей тры фунты. Бяручы пад увагу той час, які пчолкі трацяць на рабленьне вузы, а які яны маглі-б абярнуць на зьбіраньне мёду, выходзіць, што для зробленьня аднаго фунта воску, ёсьць патрэбна ад 15-цёх да 20 фунтаў мёду. Фунт мёду каштуе цяпер ад аднаго злотага да 1 злот. дваццацёх пяцёх грашоў, значыць фунт воску па гэтай цане павінен каштаваць 1 зл.×20 фун. мёду=20 злотых, альбо 1 зл. 25 гр.×20=25 залатых, у той час, калі воск у прадажы каштуе цяпер 2 злоты і 50 гр. З гэтага кожын пчаляр павінен судзіць, як карысна ўжываньне для пчолак штучнае вузы. Бо калі ў пчолак будзе гатовая вуза, то яны ня будуць траціць часу на яе рабленьне, а абернуць гэты час на зьбіраньне мёду і заместа 3-х фунтаў воску прынясуць нам ад 45 да 60 фунтаў мёду. З другога боку штучная вуза ня толькі карысная дзеля таго, што ашчаджае пчолкам час, і гэта найгалаўнейшае, але карысна яна і дзеля таго, што чарачкі ў ёй робяцца правідловыя і пчаліныя, а ня трутнёвыя, што, разумеецца, перашкаджае расплоду трутняў-дармаедаў. З гэтага ня вынікае, аднак-жа, што мы трутняў павінны зьніштажаць, але з гэтага вынікае тое, што мы можам урэгуляваць іх расплод, бо калі мы паставім у рамовым вульлі адну толькі трутнёвую рамку, то і трутняў у нас будзе столькі, сколькі чарачак у гэтай рамцы, а ня болей, калі-ж мы не паставім ніводнае трутнёвае рамкі ў вулей, то і трутняў у ім ня будзе. Робім гэта ў той час, калі ў вульлі ёсьць здаровая злучаная матка і калі мы ня хочам мець з гэтага вульля рою, вырэзваючы матачнікі і ня пускаючы трутняў.

Робіцца штучная вуза пры помачы адумыснае, для гэтага зробленае, машыны, каторая складаецца з двух, адзін пад адным ляжачых, цыліндраў. На гэтых цыліндрах ёсьць гэткія вы-

пуклыя выступы, якія маюць форму чарачкі вузы, і ляжаць адзін пры адным, як і чарачкі ў вузе. Калі робіцца штучная вуза, то робіцца яна толькі з чыстага воску, бяз ніякіх дамешак, бо трэба ведаць, што вузы з дамешкамі, як парафіна, стэарына і г. д., пчолкі ня прыймаюць. г. зн. калі мы паставім гэткую вузу ў вулей, то пчолкі яе альбо згрызуць, альбо зусім ня будуць рабіць. У прадажы, ў большасьці выпадкаў, і ёсьць вуза з дамешкамі, дзеля гэтага мы павінны самі рабіць штучную вузу, купіўшы да гэтага машыну, катора каштуе ад 180 да 200 залатых, альбо калі мы ня можам сабраць грошай на машыну, то павінны рабіць штучную вузу на заказ у пэўнага чалавека, ў катарага ёсьць гэтая машына. Калі ня можам зрабіць ні першага ні другога, то купляем у магазыне, на пробу, некалькі пластоў вузы і ўстаўляем у вулей; калі пчолкі ня будуць грызьці, то вуза добрая і тады мы яе купляем больш.



Машына для вырабу штучнае вузы.

Цяпер маем клопат, як уставіць пласт штучнае вузы ў рамку. Дзеля гэтага ў рамцы, ад верху да нізу працягваем, у роўных адступах ад сябе, чатыры тоненькія цынковыя дроцікі; дроцікі гэтыя паслужаць нам і дзеля таго, каб быць апораю, калі рамка ўся будзе напоўнена мёдам, і будзе вельмі цяжкая; бяз гэтых дроцікаў яна магла-б выламацца, а так дроцікі яе ня пускаюць. Вось-жа працягваем спачатку гэтыя дроцікі. Потым бяром пласт вузы і, адступіўшы адзін сантымэтр з боку, заломліваем гэты сантымэтр вузы і кладзём потым гэты пласт у рамку, заломленым канцом к верху і прыліваем воскам гэты сантымэтр вузы, да верху рамкі, потым бяром разец (колца гэткае, якое круціцца на шпяньку і якое мае зубкі, пасярэдзіне якіх ідзець равок), награваем гэты рэзец і праводзім яго па вузе, напрост кожнага дроціка так, каб дроцік знаходзіўся ў раўку колца, і рамка гатовая.

*Пчаляр.*

# Гаспадарчыя парады.

## Торф на падсьціл.

Торф вельмі добра надаецца на падсьціл, бо ўбірае ў сябе шмат жыжкі: тады як 100 кілёграмаў саломы могуць затрымаць 200 літраў жыжкі, 100 кілёграмаў торфу затрымліваюць аж 400 кілёграмаў.

Апрача таго, торф мае яшчэ адну вельмі важную асаблівасьць. Ён затрымоўвае газы, як напр. амоньяк. Такім чынам, торф забараняе, каб амоньяк выляцеў у паветра і ўзбагачвае гной азотам, так дарагою пажываю для расьлін. Торф трэба ўжываць тады, калі ён ужо добра высах.

Адну толькі няпрыемную ваду мае торф, што жывёла брудзіцца, і пасьля трэба доўга і часта яе чысьціць. Дзеля таго лепш торф класьць на спод, а зьверху пасьцілаць саломаю.

## Як усушыць дзерава на пні.

Для гэтага трэба спыніць цыркуляцыю сокаў. Каля самай зямлі трэба абрубаць навокал кару аж да самае дзеравіны. Тады сокі ня маюць магчымасьці ісьці далей, і дзерава сохне.

## Што рабіць, калі карова б'е нагамі.

Бываюць выпадкі, што пры даеньні, альбо калі сьсе цяля, то карова б'е нагамі. Гэтаму бывае шмат прычын.

Каровы, якія маюць першае цяля, і ня прывыклі яшчэ да даеньня, ці і старэйшыя каровы, што маюць хворае вымя ці паколатыя цыцкі і г. д.

Трэба старацца перад усім ухіліць гэтыя прычыны. Але пакуль гэта прычына ня ўхілена, то трэба знайсьці які-небудзь спосаб, як карову падаіць, каб ня біла нагамі. Прапануецца ўлажыць два пальцы ў ноздры і сьціснуць насавую перагародку.

Трэба глядзець, каб пальцамі толькі ноздраў не падраць. Цiснуць моцна ня трэба. Карова будзе стаяць спакойна і ня будзе біцца.

Калі-ж карова круціць галавою, то няхай другі патрымае за рогі. Гэты спосаб надаецца таксама і ў тым выпадку, калі трэба што-небудзь рабіць з заднімі нагамі.

## Колькі якога насеньня трэба на дзесяціну.

Канюшына павінна быць у кожнай гаспадарцы, загэтым калі свайго насеньня канюшыны няма, то трэба купляць у складах. На дзесяціну чырвонай канюшыны ў Беларусі высяваецца 40—45 фунтаў.

Віка яравая высяваецца найчасьцей разам з аўсом. На дзесяціну высяваюць 7—8 пуд. вікі і 4—5 пуд. аўса.

Пялюшка высяваецца ў так м-жа ліку пудоў, як і віка.

Сарадэля на дзесяціну высяваецца 3—4 п.

Лубін сіні на насеньне высяваецца 10—12 пуд. на дзесяціну, а для ўгнаеньня зямлі 12—15 пуд. на дзесяціну.

Буракоў кармавых высяваюць на дзесяціну рукамі 1—$1\frac{1}{2}$ пуд., машынай—больш.

Морквы высяваюць 7—12 фунтаў, турнэпсу і бручкі 5—7 фунтаў.

Лён-даўгунец у нас высяваецца на дзесяціну 7—9 пудоў.

Калі селянін у гэтым годзе і купляе насеньне, то ўсё-ж ён павінен даць сабе слова, што гэта ён робіць у апошні раз. Кожная гаспадарка павінна мець сваё насеньне. Бяз гэтага трудна чакаць вялікай даходнасьці ў гаспадарцы.

# Корэспондэнцыі.

## Сорамна роднага адракацца.

Здарылася мне нeяк быць у Вялейцы. Меў справу ў Старастве і, прыйшоўшы там рана, застаў у пачакальні дзьвёх дзяўчат з старой жанчынай.

Дзяўчаты гутарылі між сабою папольску, але неправідлова, увесь час устаўляючы расейскія, то беларускія словы, а то і цэлыя звароты. Старая, відавочна матка аднае з іх, зьвярталася да іх у чыстай беларускай мове. Былі апрануты ў больш-менш сялянскія вопраткі. Ня было ніякага сумліву ў тым, што гэта тутэйшыя, заправўдныя беларускія жыхаркі. Аднак, калі я зьвярнуўся да іх перш на перш з запытаньнем у беларускай мове, калі ідзе цягнік да Маладэчна, яны нешта з задзіўленьнем і з укоса зірнулі на мяне, як гэта гаворыцца, як буры на рабога, і адказалі ломанай польскай мовай, калі і ў якія дні адходзіць цягнік.

Адказалі яны талкова і акуратна і па ўсёй гутарцы можна было судзіць, што гэта людзі змысловыя і прынамся з пратэнсіяй на інтэлігэнцыю. Далей, я пытаў, ці істнуюць у мястэчку, якія-колечы беларускія арганізацыі, якія і дзе яны месьцяцца, якія адтрымліваюць газэты і г.д. На ўсё гэта, я адтрымаў адказ, што ёсьць нейкая беларуская бібліятэка, але што там ёсьць, яны ня ведаюць, бо тым ня цікавяцца.

Далей вясьці размову мне ня прышлося, бо мы разыйшліся, але я не магу ўцярпець, каб хоць у прэсе не закрануць гэтага пытаньня і такім спосабам хоць часткай аблягчыць сваё сэрца ад таго цяжару, які лёг на яго, дзякуючы такому пяпрыемнаму ўражаньню.

Бедныя дзяўчаткі! Чаму вы такія нешчасьлівыя, што, жывучы на сьвеце, ня ведаеце, кім вы ёсьць. Хто вас праклаў? Што так падзеяла на вас, што, талковыя, разумныя, маладыя людзі так несьвядомы? Вы — беларускія дзеці з крыві і косьці, выхаваныя ў родным краі, жывучыя ў сваім краі, у той час, калі край родны пачынае праціраць вочы ад доўгага і цяжкага сну, вы павінны ісьці насустрэч, працягнуць рукі з дапамогай роднаму народу, а не сароміцца і чурацца свайго матчынага слова і старацца гутарыць у той мове, якой да вас гаворыць маці. Бо іншых моваў вы, як належыць, не разумееце, пачулі вы яе толькі некалькі гадоў таму назад, мовы гэтай вы, праўду сказаўшы, як належыцца не разумееце.

Дык даволі, сястрыцы! Не рабеце гэтага больш. Ня чурайцеся свае мовы і народу, а заяўляйце сьмела ўсякаму ў вочы, што вы беларусы або беларускі. Жывеце праўдай, а праўда заўсёды ў канцы пераможа. *Цьвярозы.*

# Юрыдычная парада.

**Трабшо ў Дідзах.** Папярэдняе замужства, паводле канонаў каталіцкага касьцёлу, можа быць тады толькі ўняважнена, калі ёсьць прынамся два сьведкі, якія-б пад прысягай сьцьвярдзілі, што ведаюць аб сьмерці мужа. Расьпіска яго ніякага значэньня ня мае,

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

У № 9 „Нашае Працы“ ад 29.X.1927 г. у артыкуле: „Беларуская Радыкальная Народная Партыя“, у канцы яго было выдрукавана: „над усім зорка бліщэлі вочы вядомага правакатара Гурына“. У зьвязку з гэтымі словамі, якія абражаюць мяне, як чалавека, абражаюць зусім беспадставуна, заяўляю, што перадаю справу ў польскі суд. Адначасна з гэтым, прашу шаноўнага рэдактара ў мэтах высьвятленьня сутнасьці рэчы, надрукаваць ніжэйнаступнае:

Пэўныя палітычныя колы, моцна зьвязаныя і запрадаўшыя сваё сумленьне і свае перакананьні за чырвонцы, ніяк ня могуць даравацць мне таго, што ў свой час, яшчэ ў канцы 1924 г. я адмовіўся выконваць іх загады, кінуў ім у твар гэтыя чырвонцы і парваў з імі, лічачы іх найбольш шкоднымі ворагамі беларускага народу. Не зьвяртаючы ўвагі на „прыказы“ пакінуць край, пагарджаючы іх пагрозамі, я застаўся ў Вільні, каб распачаць барацьбу з магільшчыкамі беларускае незалежніцкае ідэі. Я змагаўся з імі, як умеў і як мог, бо бачыў, што маскоўская агентура зьяўляецца галоўным дэмаралізатарам беларускага нацыянальнага руху, які яна хоча расколоць і разьбіць на нічога нязначачыя групкі.

Нажаль, чырвонцы і даляры аказаліся мацнейшымі— і свой першы бой з падпольнымі маскоўскімі агентамі я праграў.

За мною ў падпольлі, калі я стаў на чале гэнага руху, пайшла толькі невялічкая групка беларусаў, ды і тая хісталася і ня вытрымлівала інтрыгаў і пагрозаў з бальшавіцкага боку. Ня маючы сілаў змагарніцкіх, частка маіх аднадумцаў зложыла аружжа. Констатую, што першая спроба ў 1925 г. пакіраваць беларускі рэвалюцыйны рух на незалежніцкую дарогу і процію маскоўскага імпэрыялізму і дэспотыі не ўдалася, і ў гэтым вінаваты былі ня столькі памылкі нашае невялікае групы, сколькі об'ектыўныя абставіны.

Урэшце, па даносу камуністаў з Беластоку я быў арыштованы і пасаджаны ў беластоцкую турму. Мае ворагі, з якімі я змагаўся, хацелі-б, каб я засьпяваў ім дыфірамбы. Трудна, на гэта я пайсьці ня мог, бо гэта было-б і процію майго сумленьня і процію маіх перакананьняў і сьведчыла-б аб адсутнасьці мужнасьці і адвагі.

Але, ня гледзячы на тое, што я быў арыштованы па даносу камуністаў (чл. Ц.К.К.П.З.Б. Богдака і іншых), якія далі польскай палітычнай паліцыі матар'ялы да раскансьпіраваньня мае асобы, маё захаваньне падчас сьледзтва, як у паліцыі, так і ў судзе, не выклікала за сабою а ніводнага арышту, чаго далёка не магу сказаць аб камуністых, якія сыпалі і сваіх і чужых, і направа, і налева. Толькі на шостым месяцы майго сядзеньня ў турме, калі дзякуючы розным праўдзівым правакатарам, якімі так багата КПЗБ., быў вылаўлены амаль ня ўвесь ЦККПЗБ на чале з Артурам і Мэртэнсам, з якімі больш году ня меў нічога супольнага — і ў консьпірацыйныя сакрэты якіх ня мог быць утаямнічаны, — пазволіў я сабе разьвязаць язык і паставіць справу маю перад судом так, як яна ёсьць у сапраўднасьці. Я заявіў, што даўно парваў з маскоўскаю агентурай, змагаўся з ёю дзесяць месяцаў у падпольлі, як са шкодною зьяваю, адным словам, закамунікаваў суду тое, што лічыў патрэбным і падпісаў аб гэтым заяву на імя беластоцкага пракурора. Урэшце ,пасьля маёвага пераваротту, 8 чэрвеня я быў звольнены з прэвэнцыйнага арышту. Спробу камуністых зрабіць з мяне нейкага правакатара лічу проста сьмешнаю, бо ніколі ня быў ім і ў сваім жыцьці ніводнага дня не працаваў на два бакі, хоць і перажыў здраду адносна свае асобы з боку камуністаў і з боку аднаго вельмі вядомага беларуса, які расьцілаючыся перада мною ў сымпатыях, хацеў ашуканчым спосабам выдаць мяне ў ГПУ.

Я рваў з камуністамі — гэта так! Можа спачатку і не здаваў сабе добра справы, што моцна рву — і нарэшце парваў. І гэта я рабіў зусім шчыра, не хаваючыся ад іх і ні ад каго, хто мяне знаець. Тарашкевічу аб гэтым больш вядома, чымся іншым, бо перад самым зрывам, у сьнежні 1924 году, прапанаваў яму заснаваць у Польшчы шчырую, легальную радыкальную беларускую групу, у якую выказаў сваю згоду ўступіць — групу, якая-б ня мела нічога супольнага з Масквою і камунізмам, групу чыста нацыянальную.

Але, як-бы там ні было, я парваў з камуністамі ў канцы 1924 году — і гэта ашарашыла і іх і менскіх беларусаў. Толькі праз два месяцы на III зьездзе КПП, куды я не паехаў, хоць мяне і клікалі, я быў выключаны са сьпіску агентаў Комінтэрну і адначасна з гэтым ня толькі ў менскіх газэтах, але і ў „Правде“, пачалася процію мяне і іншых кампанія — і нават здаецца была выдана спэцыяльная адозва Выканаўчага Камітэту гэтага Камінтэрну да

рабочых і сялян Заходняе Беларусі, заклікаючая іх ня слухаць „самазванцаў“ і „раскольнікаў“.

Далей „Грамада“, фальшывая, двулічная „Грамада“, ярым праціўнікам якое я быў, бо лічыў, што гэтая „Грамада“ зьяўляецца масавай правакацыяй з мэтаю запакаваць нашымі сялянамі польскія турмы.

Ці-ж не апраўдаліся мае прароцтвы? Трудна. Выклікаwны, як адзін са сьведкаў у справе „Грамады“ і гэтак званае „Незалежнае Хлопскае Партыі“ Ваявудзкага, дыфірамбаў ёй я таксама сьпяваць ня мог. Як ні шкадаваў я асабіста некаторых асоб з „Грамады“, як напрыклад Мятлы, Рак-Міхайлоўскага і іншых, як ні балела сэрца, — аднак мусіў мець цывільную адвагу выказаць свой пагляд на сутнасьць „грамадаўшчыны“, якую лічу шкоднаю перад усім для адраджэньня Беларусі. Ні ад каго гэтага ня крыў і ня крыю.

I я пытаюся ў маіх „пракурораў“ з б. „Грамады“, ці ёсьць правакацыяй тое, што чалавек, праціўнік арганізацыі з самага пачатку, чалавек, які сядзеў у турме, калі „Грамада“ закладалася, чалавек, які ня быў ні на адным паседжаньні ня толькі ЦК „Грамады“, але і самага апошняга вясковага гуртка, чалавек, які ніразу і ніколі ня прыкідваўся яе прыхільнікам, а наадварот — перасьцерагаў, ці маець хто права сказаць, што гэты чалавек правакатар, калі ён адкрыта, як у друку, так сама і перад судом выказвае свой пагляд. Маеце права назваць мяне *сваім ворагам*, нават ворагам у квадраце, якога трэба, з вашага пункту гледжаньня, забіць, зьніштожыць. Калі ласка, кажу я вам, — я ваш вораг! Прызнаюся ў гэтым ня толькі перад вамі, ступіўшымі на гіблы шлях, але і перад усім грамадзянствам. Вораг ваш таму, што вы пусьцілі ў свае рады розных прахадзімцаў і палітычных спэкулянтаў, вораг таму ваш, што на кожным кроку вы фальшывілі і ашуквалі народ, вораг ваш таму, што вы здрадзілі незалежніцкую ідэю беларускага руху і танна, вельмі танна прадалі яе на дзевятым годзе праслаўляемай вамі бальшавіцкай дэспотыі, дзе беларускі селянін ня маець ніякіх палітычных правоў і згодна прызнаньню самога Чарвякова носіць боты толькі ў вялікае сьвята.

Сьляпыя! — вы хочаце зрабіць сьляпцом і беларускі народ.

Не багаслаўляць ён будзе вас, а праклінаць, бо вы кінулі яго ў прорву няшчасьцяў і сьлёз матчыных — заместа таго, каб пакіраваць на шлях адраджэньня і працы. На кожным кроку ляпечаце вы аб тым, што народ наш дзеліцца на варожыя клясы і павінен грызьціся паміж сабою, гаворыце, што хочаце злучыць Беларусь, а займаецеся тым, што ўсё і ўсюды беларускае дзеліце.

Так, вораг я ваш, але хацеў-бы, як беларус, ад усяе мае душы і гарачага сэрца, каб усе вы зразумелі, што ідзеце вы ня шляхам жыцьця, а шляхам сьмерці і не ў краіну сьветлае яснае будучыны, а ў краіну сьмерці вядзеце беларускі народ.

Іншыя газэты прашу перадрукаваць.

Вільня, 3.XI.27. *М. Гурын.*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Я. Курац.** Верш атрымалі, нажаль слабы, мусіце больш працаваць.

**Шумскі.** Пераробку драмы адтрымалі; пастараемся выкарыстаць.

**Віктар Шаг.** Дзе-якія з вашых вершаў па пэўнай апрацоўцы выкарыстаем. Зьвяртайце большую ўвагу на тэхнічны бок вершаў.

**Я. Мірскі.** Вашыя поэтыцкія творы слабыя; мусіце зьвярнуць увагу на мову і на тэхніку.





Рэдактар-выдавец **Ф. Умястоўскі.** Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.